ПАНЯДЗЕЛАК 29 ВЕРАСЬНЯ 1919 г. Цана 50 ф.

# БЕЛАРУСКАЕ ЖЫЦЬЦЁ

іллюстраваная часопісь выходзіць у Вільні раз у тыдзень.

ГОД I. ПРЭНУМЭРАТА КАШТУЕ (з дастаўкай да хаты): на адзін год — 24 м., на 6 мес. — 12 м., на 3 мес. — 6 мар. № 15.

*Вільня, 29 верасьня 1919 г.*

Мы, пачаўшы сваю працу пад знакам згоднага жыцьця ўсіх нацыянальнасьцяў нашага края, ні разу ня зыйшлі з гэтага шляху, не перэстаючы клікаць усіх да супольнага будаваньня новай дзержаўнасьці ў межах б. Вял. Кн. Літоўскага. Дзеля гэтага, полемізуючы калісь с сьляпым беларускім шовінізмам, мы цяпер хочам паказаць на тых, хто з іншага, з польскага, боку робіць шкодную работу для агульнай згоды і выклікае непажаданае нездаволеньне ў тых, хто будучы запраўдным гаспадаром краю, пакуль што адсунуты ад кіраваньня доляй сваей бацькаўшчыны.

Калі на вуліцах нашага места паявілася памятная адозва Начальніка Польскай Дзержавы аб вольнасьці і роўнасьці, мы верылі, што гэты кліч будзе кіраваць усімі дзеяньнямі адміністрацыі нашай старонкі, пачынаючы ад найвышэйшых ажно да найніжэйшыхураднікаў. На жаль, ненармальнае жыцьцё ваеннага часу высунуло на розныя пасады людзей сьляпых с погляду тутэйшых нацыянальных адносін або глухіх на агульную справу, у розных установах замест шчырых працаўнікоў для грамадзянскага дабра паявіліся розныя мамінкія сынкі да агалеўшыя землеўласьнікі, часта людзі чужыя, якія на сваіх пасадах, не знаючы або ня хочучы ведаць месцовых варункаў, а маючы безпасрэдныя адносіны да народа, робяць шкодную работу.

Гэтакай шкоднай работай ёсьць усё, што замест гаіць тутэйшыя балючыя нацыянальныя адносіны, яшчэ больш расцарапывае незагоеныя раны.

Вось адна малюсенькая жменька фактаў:

1) у Беластоцкім і Бельскім паветах польскія паветовыя школьныя інспэктары заявілі беларускім вучыцялём, што ў беларускія тамтэйшыя школы могуць быць назначаны толькі тыя вучыцялі, якія скончылі польскія вучыцяльскія курсы;

2) у Сакольскім пав. школьны інспэктар заявіў, што ў Сакольскім пав. будуць толькі польскія і расейскія (?!) школы. Вучыцялі на гэта адказалі, што яны беларусы і могуць вучыць толькі ў сваей мове. „Калі так—адказаў п. інспэктар—то едзьце ў сваю Беларусь, калі яна гдзе ёсьць, а тут я не пазваляю“!

3) у Зарудзічах, Ашмян. пав., паветовы камісар вярнуў беларускай коопэратыве ўсе паперы, затрымаў фурманкі і даў гэтакую рэзалюцыю: „коопэратыва дагэтуль не зацьверджэна, не прэдстаўлены пратакол сходу і статут, а прозьба павінна быць напісана па польску і печатка павінна быць польская“.

4) у Горадні без паведамленьня выкідаюць беларускую школу з старога памяшчэньня.

5) У Буцлаве зачынена беларуская гімназія.

Вось толькі трохі з аграмаднай массы фактаў, — а як яны характэрызуюць тых, у каго рукі папалі галіны якой-будзь улады!

І выходзіць гэтак: галава адно, — а ногі другое. Мы бачым якійсьці ненармальны арганізм, часткі каторага паступаюць нязгодна с ідэяй, якая ажыўляе цэнтр, і кожная робіць сваю палітыку ў палітыцы.

Хай будзе згода!—вось наш кліч. Усё тое, што выказывае зьдзек аднэй нацыянальнасьці над другой, усё тое, што замест прыбліжаць жаданую часіну—вялікай супольнай творчай працы, аддаляе яе, бо не дае магчымасьці загаіцца крывавым ґранам...

# СЫМОН БУДНЫ.

(Матэрыялы да гісторыі ар'янства ў Беларусі)

Вялікі вумственны рух, які можна было заўважыць у XVI сталецьці ўва ўсей Эўропе, закрануў так сама і паверхі беларускага народа, яго інтэлігэнцыю. Побач з іменьнем Францішка Скарыны, першага перакладчыка біблії на беларускую мову, бачым другое— Сымона Буднага, так сама гуманіста. Дзеля таго, што аб ім у нас мала ведаюць, даем тут жменю фактаў, датычных жыцьця і дзеяльнасьці Буднага, і колькі данных, якія даюць характэрыстыку гэтай нязвычайнай асобы.

Пісаць біаграфію Буднага немагчыма дзеля таго, што няма для гэтага данных. Ведаем толькі тое, што радзіўся ў Беларусі ў першай палове XVI сталецьця ў сямейцы, якая адзначалася нязвычайнымі здольнасьцямі. Малодшы брат Сымона, Беняш, так сама быў вучоны, філёзоф, пісьменнік і перэкладчык. Аднак працаваў толькі для польскай літэратуры і для беларускай пісьменнасьці не зрабіў нічога. Адзін з яго твораў дачакаўся колькі выданьняў, што ёсьць мера вартасьці і расхвату яго кніжак, з якіх частка друкавалася ў Вільні.

Сымон гэтак сама як Скарына вучыўся ў Кракаўскай Акадэміі. Якія ён атрымаў тут вучоныя тытулы, гэтага ня ведаем, так сама як і тое, дзе і калі перэняўся рэформацкімі поглядамі. Шмат тады было паміж новатарамі людзей вучоных, але Будны сваей незвычайнай інтэлігэнцыяй і працай высунуўся наперад і заняў адно з першых месцоў. У гэты час ён быў вызнаўцай Кальвіна і жыў недзе ў Польшчы. Слава яго вучонасьці даходзіла да Беларусі, бо віленскі ваевода князь Мікалай Радзівілл, якога звалі Чорным, паклікаў Буднага ў 1552 г. ў Клецк на пасад пастора. Апрача дзеяльнасьці прамоўцы, Будны, карыстаючыся Радзівілоўскай шчодрасьцю, ад 1562 г. разьвярнуў дзеяльнасьць выдавецкую. Друкаваў ён свае творы ў мове беларускай, польскай і на міжнацыянальным языку сярэдніх вякоў—па лацінску. Нас, ведама, найбольш цікавіць тое, што Будны напісаў па беларуску. Яго памочнікамі ў пісьменніцкай працы былі Мацей Кавэчынскі і Вавжынец Кжыжкоўскі. Магчыма, што ня гэтулькі нацыянальнае ўсьведамленьне, колькі хаценьне пашыраць кальвінізм сярод беларускага народа прымушало Буднага ўжываць у сваіх агульна даступных творах беларускую мову. Першы твор Буднага пісаны па беларуску гэта — надрукаваны ў 1562 г. ў Несьвіжы (у Клецку друкарні ня было) „О оправданії грэшнаго чэловека перэд Богом кныжка". Ужо ў гэтым творы Будны выяўляе сябе як праціўнік догмата аб Прэсьвятой Тройцы.

Так сама ў друкарні ў Несьвежы надрукаваў Будны ў 1562 г. другі свой твор „Катэхізіс, то есць наука стародавняя хрысціанская ад сьвятога пісьма для простых людзей языка рускаго в пытан'ях і адказах зобрана". Гэта была мова народа, які жыў і цяпер жыве ў ваколіцах Клецка, Несьвіжа і т. д. — значыцца, беларуская. У канцы гэтага кальвінскага катэхізму мы знаходзім гэтакія словы: „Доконана сія кныга, зовемая грэческім языком Катыхізіс, а по словенску Оглашэнье Богу... накладом боголюбівых мужэй, пана Матіа Кавэчынскаго, наместніка несьвізскаго, Сімона Будναго, Лаврэнцья Крышковскаго" і інш.

Яўна як антытрынітар заявіў сябе Будны ў 1565 г. і зусім тагды разыйшоўся з кальвіністамі. Пагляд свой у гэтай справе ён высказаў на сынодзе польскіх антытрынітараў ў Скрынне ў 1567 г.

Будны належаў да гэт. назыв „аднабожнікаў" — чыстых антытрынітараў, адрожніваючыся ад „двабожнікоў". Здаецца, што апрача „Катэхізма" і „О оправданії" нічога больш Будны не друкаваў па беларуску, аднак ён пісаў яшчэ шмат, павялічываючы польскае і лацінскае пісьменства сваймі ўласнымі творамі або перэкладамі з лацінскага языка, з мовы чэскай ды інш.

Будны ня толькі належыць да нас, як аўтор двох твораў напісаных па беларуску, але і як чэлавек з усімі сваймі заслугамі і недастачамі.

Ды ня толькі чыста догматычныя пытаньні цікавілі Буднага. На діспуце ў Еўю ў 1568 г. перад сабраўшыміся пасторамі і шляхтай ён спрачаецца з Якубам Каліноўскім і Паўлай з Візнуа аб праве хрысьціян мець слуг і нявольнікаў.

Апошні свой твор Будны надрукаваў ў 1583 г. і ад гэтага часу няма ўжо аб ім вестак. Ведама толькі, што ён памёр раней чымсі Фаўстын Соцін, які памёр у Польшчы ў 1604 г.

Канчаючы гэты нарыс дзеяльнасьці Буднага, папрабуем наштрыхаваць яго духоўны твар. Будны быў запраўдным дзіцянём XVI сталецьця. Ен горача безупынна гнаўся за новымі рэлігійнымі перэжываньнямі. Гэта быў вечны новатар. Шмат вучоны, надта добры лінгвіст, выдатны пісьменнік у сваіх

творах ён пасеяў многа новых ды надзвычайна сьмелых думак, якія, сьведчучы аб духоўнай сіле іхняга аўтора, былі прычынай вялізарнага перэпалоху ў гэтым гняздзе рожнаверства, якім была тады Рэчпаспалітая,—але здабылі яму многа прыхільнікаў і вучняў. Вучоныя, якія пісалі аб ар'янізме робяць Буднаму шмат паважных закідаў, між інш. яго лёгкамысныя адносіны да тэксту сьв. Пісьма, якое ён лоўка перакручываў дзеля сваіх мэтаў замест таго, каб пахіліць галаву перад ягоным значэньнем. Непастаянства характэра—гэта другая нестача Буднага. Хаця гэта была нестача без мала ўсіх сыноў XVI сталецьця, калі веяньні сярэдніх вякоў спатыкаліся з дзьмухам новых, як спатыкаюцца дзьве розных напрамкаў хвалі паветра. Ня гледзячы на ягоны модэрнім, Будны ёсьць тыповым прэдстаўнікам рэформатарскай рэлігійнасьці XVI ст., якая ня ведала рожніцы між жыцьцём ды рэлігіяй, і аднолькова хацела аддаць Богу чэсьць пры бяседным стале з чарай віна, як і ў ціхай сьвятліцы з маладой салодкаю жонкай.

Кс. Ул. Толочко.

## КРЫЎДА.

Цягалася Крыўда па сьвеце,
Ад хаты да хаты блудзіла;
Тым строіла вечные сеці,
Тых гнала без часу ў магілы.

Ад хаты да хаты йшла с хвалай,
Узвялічвала троны, кароны;
Нявольнікам путы кавала,
Пладзіла сусьветные стогны.

Здавалося, ноч не пяройдзе,
Іржа не згрызе вечных путаў,—
Аж блыснуў пажар на усходзе,
І дрогнулі рабскіе скруты.

І дрогнула Крыўды ўсеўлада,
Разлёгся скрось кліч пяруновы;
Апалі кароны, пасады,
З нявольнікаў спалі аковы.

І мілай пацехай зазьяла
І доля і слава людзкая,
Дый толькі знаць слава і хвала
Не даўгавечна бывае.

Раскованы раб сябе выдаў —
Ня ўзнёсся ў высь дух чэлавечы,—
Нявольнік пабратаўся с Крыўдай
І ў помач ёй даў свае плечы.

1918 г.

Янка Купала.

## НАШЫ ПЕСЬНЯРЫ.



**Зьмітрок Бядуля.**

Няма, здаецца, такой літэратуры на сьвеці, у каторую не ўлажыў-бы свайго ўкладу народ жыдоўскі. Жыды, распыленыя па ўсенькім зямным абшары, да самых апошніх часаў вельмі лёгка прынімалі мову і культуру народаў, між каторымі доля судзіла ім жыць. І ў творах жыдоўскіх паэтаў і пісьменнікаў, працаваўшых дзеля чужых літэратур, нацыянальная індывідуальнасьць іх выяўлялася вельмі ярка, хаця і прынімала зачаткі чужой нацыянальнасьці. Палякі, расейцы ды многа-многа іншых нацыянальнасьцяў могуць шчыра хваліцца літэратурнымі здабычамі «сваіх» жыдоў. Беларусы не становяць у гэтым выключэньня: і на Беларусі аказаліся жыды, каторыя

так зрадніліся з нашым народам, што свае твор я сілы ахвяравалі дзеля працы над адбудовай беларускай культуры. Між імі першае мейсцо займае наш песьняр, укрываючыся пад выдуманымі прозвішчамі „Зьмітрок Бядуля“, „Ясакар“ (праўдзівае яго прозвішчэ—Плаўнік).

**Антон Новіна—*„Нашы песьняры“*.**

## С сучасных матывау.

I.

Ты сьлезамі і крыжамі
Адзначаў пакутны шлях.
Гнаўся голад, гнаўся холад
За табою гнаўся страх.

І старэнькі і маленькі
Уцекаў з сваей зямлі,
А пажары па абшарам
За табой ішлі, плылі...

Ад краіны на чужыну
Гнаў цябе страшны прымус.
Ты ў нядолі у чужым полі
Плакаў, бедны беларус.

І байракі для прымакаў
Будавалі ў гарадох,
І капалі дзе папало
Там магілы ў пустырох.

У магілы ляглі сілы,
Сілы лепшые тваі.
Ой занатта, забагата
Там крыжы тваі расьлі...

А мацьнейшы, адбарнейшы
Гінуў дзесь ў далечыне,
Па ём буры сум-хаўтуры
Там спраўлялі на вайне.

II.

Гэй, вярнемся на роднае поле,
Стуль, дзе доўга так вылі ваўкі.
Засьпеваймо тут песьні аб волі
На той мове, што знаюць бацькі.

Гэй вярнемся с краёў ўсяго сьвету,
Бо стуль кліча нас бацюхна—край!
Нашы песьні яшчэ недапеты,
Сваю праўду здабудзеш, ратай!

Скінеш з плеч сваю торбу вандроўну.
Твар абмыеш ў крынічнай вадзе.
І жыцьцё тваё зноў стане поўна,
Ты забудзеш аб горы-бядзе.

Пасьля доўгіх пакут, пасьля мукі
Пачнеш шчасьце сваё ты каваць.
На чужыне пазнаў ты навуку,
Як зямельку сваю шанаваць...

Менск, 1918 г. **Ясакар.**

## МЕСЯЦ ЎСХОДЗІЦЬ...

Месяц ўсходзіць над далінай.
Ты прыдзі ка мне, дзяўчына!

Будзем слухаць шэпты бору,
Будзем ў небе лічыць зоры.

Будзем песьні пець у полі,
Будзем разам шукаць долі.

Хоць бяз конца я кахаю,
Ты ня пойдзеш, добра знаю.

Ты ня пойдзеш, бо ня любіш,
Маё сэрцо толькі губіш.

Сам адзін пайду у ночы,
Разарвацца сэрцо хоча.

Сьлязмі плача маё воко,
Сам пайду у лес далёка.

Буду біць аб камень грудзі,
Хай душа цябе забудзе.

Буду грудзі біць да сьмерці,
Покуль разарвецца сэрцо...

**Пасадзец.** **Ясакар.**
Лето, 1919 г.

# БЕЛАРУСЬ.

### МЕНСК.

У пятніцу 19 верасьня быў у Менску Начальнік Польскай Дзержавы Пілсудскі. У шляхоцкім клюбе спаткалі яго дэлегацыі ад усіх нацыянальнасьцяў, якія жывуць у нашым краі. Ад іменьня ўсіх беларускіх арганізацыяў прамаўляў старшыня беларускяга Камітэта паэт А. Прушынскі (Алесь Гарун). Ен сказаў больш—менш гэтак:

„Пане Начальніку Дзержавы Польскай! Мінае ўжо шосты тыдзень, як мы, тубыльцы гэтага места сэрца Беларусі,—Менску—жывём спакойным жыцьцём.

Разьвеяўся той чырвоны туман, каторы вісеў над намі гэтта доўгія месяцы, не даючы ні адатхнуці, ні зірнуці на ясны сьвет

спакойнымі вачыма. Разьвеялася відма галоднай сьмерці, пагражаўшай нам, і цяпер, гледзячы на будучыну, адгадываючы заўтрашнія дні можам спадзевацца, што будзям жыць!

Цуд гэты ёсьць дзелам і заслугай геройскаго польскаго войска, катораго Вы ёсьць Начальнік і каторае, нешкадуючы ні сілаў, ні ахвяраў, вырушыла сюды, адлажыўшы на час творчую працу над адбудаваньням свае Бацькаўшчыны, за яе рубяжы, нясучы нам братнюю дапамогу.

От-жа, вітаючы Вас, як Начальніка гэтага героічнага войска і як чалавека, шмат і сваёй сілы і добрай ахвоты палажыўшага ў гэтую справу, ад іменьня нашых беларускіх дэлягацыяў, прэдставляючых тутака беларускае насяленьне, выражаю гарачую падзяку за звальненьне Менска і Меншчыны ад новага цяжкага нападу маскоўскага імпэрыялізму, каторы на гэты раз прыўбраўся ў бальшавіцкую вопратку.

Вольна і спакойна жывём мы сягоньня ў Менску і навет маем радасць, што бачым Вас, Пане Начальніку... Але, гаворучы славамі вешчага Баяна нашага, плачуць яшчэ маткі у Віцябску, стогнуць людзі ў Магілеве. Маўчыць, бо забаронены, хаўтурны голас аб'імшэлых званніцаў Смаленску, адкуль кожны дзень прыходзяць весткі аб новых і новых нявінных ахвярах. Сэрцы нашыя, радуючыся за нашо аслабаненьне, ня могуць быць спакойнымі за іхнюю долю. Тутака чуем мы іхнія галасы аб помачы. Але мы слабыя, сілы ня маем і нічым, акром болю ў душы за іх і сьціснутых ад гневу кулакоў, дапамагчы ім ня можам.

Аднак-жа мы пэўны, што страшная мара разьвеяцца і над імі і да гэтага рады і гатовы далажыць усе свае сілы, аддаць і свае ахвяры. Бо няма тых ахвяр, няма тых скарбаў, таго дабра, каторых сыны Беларусі ня згодзіліся-б аддаць за волю і шчасьце сваёй Бацькаўшчыны...

Яшчэ хачу сказаць Вам, Пане Комэнданце: мы верым і спадзяёмся, што разам з вольнымі Менскам, Вільняй і сівой Горадняй вольнымі і шчасьлівымі будуць у вольнай і незалежнай Беларускай Рэспубліцэ нашыя адвечныя астрогі на рубяжох Маскві, — Віцебск і Магілеў, і стары Смаленск. Гэтага мы спадзяёмся, у гэта мы верым, а гэтымі верай і надзеяй абдараваў нас братні народ, каторага Слаўнаму Прэдстаўніку гатовы мы сказаць у Меншчыне ня толькі нашае сягоньняшняе „дзякуй", але і заўсёды: „здароў будзь, прыходзь да нас, Госьцю мілы, Суседзе дарагі!".

Начальнік Польскай Дзержавы ў кароткай але поўнай жалезных моцных слоў прамове адказаў дэлегацыям, што з гэтага становішча, якое Ен заняў у сваёй вядомай адозве да жыхароў б. Вял. Князьства Літоўскага, ня зойдзе і кончыў гэтакімі славамі: „Я хацеў-бы бачыць гэтую зямліцу вольнай паміж вольнымі народамі"...

У вечары ў Местовым Тэатры быў канцэрт з двох аддзелаў: першы быў польскі, у яго праграму ўвайшло пеяньне (солё) і музыка, а другі—беларускі з гэтакай праграмай: народны хор пад загадам Тэраўскага і дэклямацыя. Хор прапеяў сьцяг народных песьняў і композыцыяў Монюшкі.

Бытнасьць у Менску Начальніка Пілсудскага зрабіла сільнае ўражэньне на жыхароў Менска. Успамін аб бытнасьці Дарагога Госься доўга жыць будзе ў сэрцах мінчан.

---

Маршалком акруговага суда ў Менску назначаны Казімір Петрусевіч. Вось якую характэрыстуку яго дае віленскі „Głos Litwy"

„Пан К. Петрусевіч беларус і належыць да беларускай соц.-дэмокр. партыі. Гэты выдатны адвокат і грамадзянскі дзеяч у Менску належыць да такіх асоб, якія маюць звычай насіць на сваім штандары кліч праўды і чэснасьці. Ані правіцовыя стараньні, ані бальшавіцкія абятніцы не патрапілі прыцягнуць да сябе гэтага чэлавека, — ён застаўся верны сваім пераконаньням да сягоньняшняга дня. Праз увесь час перэваротнага бальшавіцкага дзеяньня ў Менску п. Петрусевіч быў тут, і толькі дзякуючы таму, што польскае войска неўспадзеўкі прыйшло, ён выратаваўся, бо яго меліся вывесьці ў глыб Расеі.

П. К. Петрусевіч, як беларус польскай культуры быў заўсёды прыхільным для польскага народу. Добра памятаем, як п. Петрусевіч не задумаўся стануць перад бальшавіцкім рэвалюцыйным трыбуналам, баронючы тых расейскіх афіцэраў б. Ніжэгародзкага палка, якіх пасланцы Троцкага арыштавалі за тое, што яны адмовіліся увайсьці ў шарэнгі чырвонай арміі, пасланай проціў Польскага Корпуса".

## ГОРАДНЯ.

7 верасьня ў Местовым Тэатры быў беларускі спэктакл. Іграли „Страхі жыцьця" драму Ф. Алехновіча і „Мядзьведзь" жарцік

Чэхова. Публікі было шмат, якая горача вітала артыстаў, іграўшых абедзьве пьесы зусім добра.

Беларускі Вучыцельскі Саюз і Беларускую Школу, якія заснаваліся ў аддадзеным Магістратом памяшчэньні на Софійскай вул. № 4, спаткала 15 верасьня непрыемная неўспадзеўка: без ніякага загадзя паведамленьня і без ніякай урадовай паперкі зьявіўся пан інспэктар школьны Возьнякоўскі з некалькімі чэлавекамі і заняў памяшчэньне для польскай жаночай гімназіі Сясьцёр Самарытанак. Не памаглі ніякія пратэсты, бо прыйшлося спаткацца... с кулаком (даслоўна). Не ўдалося навет забраць усе рэчы, бо іх аб'явілі ўласнасьцю „жондовай“.

Беларускі Вучыцельскі Саюз перэкачаваў у д. № 8 на Полёвой вул. Тут апрача таго заінсталяваліся: беларуская школа, Грамада Моладзі, бібліатэка і чытальня.

### БУЦЛАЎСКАЯ ГІМНАЗІЯ.

Зараз-жа па рэвалюцыі у Расеі, у марцы мес. 1917 г. адчынілася у Буцлаве пачатковая беларуская школа. Замест яе пасьля у ліпні 1917 г. запраектавана было адчыніць беларускую гімназію. Дзеля гэтай мэты паўстаў Камітэт з выбарных ад Буцлаўскай коопэратывы, ад валасной управы і ад ахвярадатчыкаў на гімназію. А ў студні 1917 г. уфармавалася Апякунчая Рада гімназіі. Вышукаўшы і сабраўшы вучыцялёў у сьнежні 1918 г. афіцыяльна адчынілася гімназія, на якой урачыстасьці было шмат людзей. Главная Беларуская Рада узяла гімназію пад свой загад і дала ей фундуш на будову патрэбнага для яе дому. Архітэктар Леон Дубейкоўскі (з Варшавы) выпрацаваў плян будынкаў для гімназіі і аблічыў кошт іх будовы. Гаспадары мястэчка Буцлава даравалі для гэтай гімназіі пляц зямлі на Зосінскай вуліцы (больш двух маргоў). А нямецкая акупацыйная улада праз стараньні Беларускай Рады выдала з Менскага казначэйства падмогу на Буцлаўскую гімназію. З прыходам савецкай уласьці гімназія была — як і усе тады школы — забрана пад іх загад.

З боку нейкіх польскіх сфэр гімназія праз увесь час свайго існаваньня цярпела напасьці. Каб загубіць беларускую гімназію пан Пёнткоўскі стаўшы бурмістрам навёў немцаў на раскватарунак у гімназію. Але немцы праз некалькі дзён вярнулі гімназіі кватэру. Тады тыя-ж польскія сфэры кінуліся ўжо на другі спосаб: той-жа п. Пёнткоўскі ад імяні домаўласьніка п. Аскеркі стаў выганяць гімназію з яе кватэры, кажучы, што гэта кватэра патрэбна для польскай школы, якая мае быць. Апякунчая Рада гімназіі пашла на угаворы такія, - што для польскай школы узялася на свой кошт наняць кватэру, пакуль сабе другую дастане, ці збудуіць у зіме, бо для польскай школы трэба было два пакоі — што лягчэй знайсьці, а для гімназіі трэба шмат пакояў — што зусім нельга было знайсьці.

Але п. Пёнткоўскі на гэта ня згодзіўся і... пачаліся безканечныя труднасьці, якія на кожным кроку былі роблены беларускай гімназыі ажно ворагі беларусчыны свайго дабіліся: цяпер калі главным школьным інспэктарам назначаны др. Вэнслаўскі — гімназію па яго загаду зачынілі.

Хто разумее, якую гэтым зроблена крыўду для беларускай справы, той без абурэньня ня можа чуць аб гэтым факце. Гэтулькі працы, добрай ахвоты, надзей—і раптам пан Вэнслаўскі чыркнуў на паперцы і ўся гэтая работа прападае. Сьцяміўшы ўсю вагу справы і не здаволіваясь гэтым, што мы чулі з боку пакрыўжанага аб мотывах, дзеля якіх зачынілі гімназію ў Буцлаве, мы зьвярнуліся да пана Вэнслаўскага, каб у яго габінэце даведацца праўды.

П. Вэнслаўскі сказаў:

—Буцлаў надта малое мястэчка, каб там была беларуская гімназія; там навет польскай гімназіі няма, а будзе толькі народная школа. Няхай насяленьне Буцлава заявіць мне, што хоча мець беларускую школу, дык я на гэта пазволю, а гімназію— ніколі!

— Можа гэта з грашавых прычын? можа гімназія прасіла падмогі? Калі-б беларускае грамадзянства на свой кошт утрымало гімназію, дык тады можа-б пан пазволіў?

— Не, — адказаў п. В. — грошы яны не прасілі, але я і так не пазволю, бо не бачу патрэбы. Там насяленьне каталіцкае, беларуская гімназія там зусім не патрэбна.

Далей п. В. сказаў, што баіцца, каб гімназія не служыла русыфікатарскім мэтам і г. д. Адным словам, калі хочаш кагосьці ўдарыць, дык кій заўсёды знойдзеш.

Каб праверыць справядлівасьць закідаў п. інспэктара, мы зьвярнуліся да апекуноў гімназіі Нам сказалі вось што: у гімназіі былі 2 прыгатаваўчыя клясы, 2 першыя і па аднэй другой. трэцяй і чатвёртай. У гімназію хадзілі ня толькі буцлаўскія дзеці, але і прыежджыя з ваколіцы, У гімназіі вучылося больш за **300** дзяцей.

### НАВАГРУДЗКІ ПАВЕТ.

У Цэнтр. Белар. Раду Віленшч. і Горадз. 22 верасьня прыбыла дэлегацыя ад селян і беларускіх вучыцялёў у справе адкрыцьця беларускіх народных школ у Навагрудзкім павеце. Дагэтуль там заводзяцца толькі польскія школы, навет для праваслаўных беларусаў.

# КРОНІКА.

### У СПРАВЕ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ.

Цэнтральная Белар. Рада Вілен. і Горадз. падала Генэральнаму Камісару Усходніх Зямель гэтакую заяву:

„Дзеля таго што ўсё часьцей здараецца, што мейсцовыя урадовыя агенты не прыймаюць заяў, пісаных у беларускай мове, і вымагаюць, каб уселякія прозьбы, бланкі, вывескі, печаткі і г. п. былі ў польскай мове, — мы прымушаны зьвярнуцца да Вашай Дастойнасьці з прозьбай, каб было дадзена раз'ясьненьне ад п. Генэральнага Камісара Усходніх Зямель, што прозьбы, пісаныя у беларускай мове, на аснове адозвы Начальніка Польскай Дзержавы павінны прыймацца ўрадовымі агентамі, і каб гэтае раз'ясьненьне было вывешана на відочных месцох ува ўсіх гмінных, паветовых і местовых урадах на беларускай тэрыторыі".

### БЕЛАРУСКІЯ ПРЫТУЛКІ.

У часе вайны заснаваліся ў Вільні дабрачынныя ўстановы: беларускае дабрачыннае т-во апекі над дзяцьмі „Золак" і белар. т-во помачы ахвярам вайны, якія стараліся падаць помач зруйнаванаму беларускаму насяленьню м. Вільні і краю, адчыняючы між інш. прытулькі для дзяцей. У часе нямецкай окупацыі ў прытулках знаходзілося каля 300 дзяцей. Прытулкі перэтрывалі навет бальшавіцкія часы і зачыніліся ажно у маі г. г. дзеля таго, што ня было грошы ані прадуктаў. Дзеці былі аддадзены назад бацькам або размешчаны ў віленскіх польскіх прытулках. Цяпер, калі надыйшла восень і надыходзіць зіма, справа апекі над беднымі беларускімі дзяцьмі ізноў выяўляецца ўва ўсей сваей вострасьці. Бацькі і апякуны сірот аблегаюць беларускія дабрачынныя ўстановы, просячы ўзяць іхніх дзяцей на выхаваньне. На жаль беларускія дабрачынныя ўстановы ня маюць патрэбных дзеля гэтага грошы і прымушаны адмаўляць. На заседаньні Белар. Рады 19 верасьня пастаноўлена ўтварыць пры Радзе добрачынную секцыю, каб арганізаваць прытулкі для дзяцей і наагул дзеля помачы бедным.

### «НЕ РАБІ ДРУГОМУ, ШТО ТАБЕ НЯ МІЛА»...

На беларускі тыднявік «Крыніцу» безупынна нападае «Dzien. Wileński». У № 131 адклікнуўся нейкі ксёндз С. Мікульскі, с прычыны карэспандэнцыі з Барун, у каторай дапісчык «Крыніцы» крытыкуе дзеяльнасьць памянёнага ксендза, і у сваім пісьме да „Dz. Wil." дзівуецца, што духоўная ўлада пазваляе кс. Станкевічу (рэдактару «Крыніцы») на «гэтакія wybryki», а далей піша: «развівайце сабе беларускую культуру, але ня рухайце касьцёла, бо гэта ёсьць месцо сьвятое і не дзеля палітычнай агітацыі»... (пад палітычнай агітацыяй трэба разумець.. казаньні па беларуску ў касьцёле).

Не надта даўно касьцельныя амбоны ў Вільні былі месцом перадвыборчай агітацыі. І тады «Dz. Wil.» забыўся, мусіць, што «касьцёл — месцо сьвятое»...

Калі якогась нэгра спыталіся, што ёсьць добра, а што блага, ён адказаў: „Добра, калі я ўкраду жонку у кагосьці, а блага — калі хто ўкрадзе ў мяне жонку». Ці-ж не гэтакую самую моральнасьць мае і «Dziennik Wileński» разам з сваімі дапісчыкамі?

### ПЕРЭСАЛІЎ.

Гэты самы „Dzien. Wil." дзівуецца што ў Вільні ў газэтчыкаў быццам нельга дастаць „Gazeta Porannа" і „Gazeta Warszawska", а часопісі рэдагаваныя „жыдоўскімі журналістамі", як напр. „Gazeta Polska" ды інш. маюць якіясь прывілеі.

На гэта „Nasz Kraj" адказывае „Dz. Wil."аму, што на чале „Gaz. Pol." стаяць палякі: Адам Скварчынскі і Тадэуш Свеньціцкі, б. афіцеры з 1 Брыгады Пілсудскага і г. д.

Узапраўды „Dzien. Wil." не перабірае ў спосабах барацьбы з сваім палітычнымі праціўнікамі. Бье чым папала...

# АБВЕСТКІ.

Ад 1 кастрычніка г. г.
ЧАСОПІСЬ
**„Беларускае Жыцьцё"**
можна выпісываць да хаты, заплаціўшы прэнумэрату, якая каштуе:

на 1 год — 24 маркі
на 1/2 „ — 12 „
на 1/4 „ — 6 „

**ХТО ДА 1 КАСТРЫЧНІКА НЕ ЗАПЛОЦЕ ГРОШЫ, „Б. Ж." НЕ АТРЫМАЕ.**



**Беларуская вёска.**





**Рэдакцыя і Адміністрацыя**: Бакшта 11. Ад 4 да 7 гадзіны ў вечары апрача сьвят.

Рэдактар і выдавец **Францішк Алехновіч.**

Пазволено Военнаю цэнзураю. Друкарня «Віленскага Выдавецтва», Квашэльная 23.